АФІЦЫЙНА

# Колькі сем'яў у Беларусі?

*Па даных перапісу насельніцтва 1999 года, у Рэспубліцы Беларусь пражывае 2 мільёны 920 тысяч нуклеарных сем'яў, гэта значыць сем'яў з дзецьмі і бацькамі без бабуль-дзядуль. З ліку гэтых сем'яў 1,5 мільёна (54%) — сем'і, якія гадуюць дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў. Трэба казаць, што сярод іх пераважаюць тыя, якія маюць адно дзіця (59%). Дваіх дзяцей маюць 35% сем'яў, траіх і больш — усяго толькі 6%.*

Мнагадзетных сем'яў у нашай краіне 89,4 тысячы. І такая іх колькасць зразумелая, таму што яны, разам з астатнімі сем'ямі, якія гадуюць непаўналетніх дзяцей, маюць высокую рызыку патрапіць у катэгорыю малазабяспечаных. Так, па выніках 2003 года ўдзельная вага сем'яў з сярэднедушавым даходам ніжэй бюджэту пражытачнага мінімуму складае 31,5%, сярод іх сем'і з адным дзіцем — 24,2%, з двума — 40,4%, з трыма — 67%.

Трэба дадаць, што, па словах галоўнага акушэра-гінеколага Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Вольгі Перасады, і нараджаць дзяцей жанчыны сталі меней. Напрыклад, калі ў 2002 годзе было крыху больш за 89 тысяч родаў, то за 2003 гэтая лічба ўжо іншая — 88 тысяч, а за першы квартал 2004 года адбылася толькі 21 тысяча 270 родаў. І адмаўляюцца ад дзяцей амаль у кожнай родадапаможнай установе. *"Самае цікавае,* — кажа Вольга Перасада, — *што зараз мы сутыкнуліся з праблемай, калі ад дзяцей адмаўляюцца не маладыя 15—16-гадовыя дзяўчаты. У нас ёсць выпадкі, калі жанчына-бізнесмен адмовілася ад дзіцяці, прычым ад другога. І зусім сталыя жанчыны ідуць на гэта. У нас ёсць і такі тэрмін, як "падлеткавая цяжарнасць". І зараз яе лік з вынікам — аборт, змяншаецца. Дзяўчаты сёння, наадварот, імкнуцца нарадзіць".*

На жаль, назіраецца рост няпоўных сем'яў, дзе дзіця выхоўваецца адным з бацькоў, часцей за ўсё — жанчынай. Іх у нас 335 тысяч ці 22% ад агульнай колькасці сем'яў. Таксама Беларусь мае вялікую колькасць дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, — так званыя сацыяльныя сіроты. Усяго іх 32.889. З іх 90% — гэта сацыяльныя сіроты (пры жывых бацьках). Дарэчы, колькасць сацыяльных сірот павялічваецца, а дзяцей-сірот без бацькоў скарачаецца.

**Наталля ГУСЕВА.**

БАМОНД

## Прынц Чарльз жэніцца на сваёй палюбоўніцы?

Архіепіскап Кентэрберыйскі Rowan Williams не супраць вянчання прынца Чарльза з ягонай сяброўкай Камілай Паркер Боулз, паведамляе "Рэйтэр" са спасылкай на брытанскую газету "Times".

Галава англіканскай царквы раней заяўляў, што такі шлюб немагчымы, аднак пасля сустрэчы з наследнікам брытанскага прастолу змяніў сваё рашэнне.

Па словах аднаго з сяброў прынца Чарльза, вяселле адбудзецца толькі напрыканцы наступнага года. Ён таксама паведаміў, што дакладная дата вяселля не будзе вызначана да таго часу, пакуль не скончыцца расследаванне трагічнай смерці першай жонкі прынца Чарльза — прынцэсы Дзіяны.

Букінгемскі палац пакуль ніяк не каменціруе гэтае паведамленне.

Дарэчы, прынц Чарльз быў знаёмы з Камілай з 1971 года. У 1994 годзе ў тэлевізійным інтэрв'ю прынц прызнаваўся, што пасля вяселля з Дзіянай Спэнсер ён зноў сустракаўся з Камілай.



**Алеся КОВАЧ.**

ЁН І ЯНА

# Гаючыя ўласцівасці секса

***Сумеснае жыццё тым прывабней, чым больш у ім узаемапаразумення паміж мужам і жонкай. Псіхолагі таксама дадаюць: і секса. Амерыканскія ўрачы даказалі, што менавіта палюбоўныя адносіны дапамагаюць пазбавіцца некаторага недамагання. Вось 10 праблем, якія можна вырашыць, калі рэгулярна займацца сексам...***

### 1.Умацаваць сардэчную мышцу і сасуды

Калі ў спакойным стане наш пульс хістаецца ў межах 70—80 удараў у хвіліну, то пры доўгім пацалунку ён дасягае 110 удараў. У стане моцнага сексуальнага ўзбуджэння ён падымаецца да адзнакі 150 і ў момант аргазму — 180. Пры такім рытме скарачэнняў умацоўваецца і сама сардэчная мышца і стымулюецца цыркуляцыя крыві ва ўсім арганізме.

### 2.Трымацца ў межах сваёй звычайнай вагі

Пахудзець, займаючыся сексам, можна толькі ў тым выпадку, калі не вылазіць з ложка цэлымі суткамі. А вось трымаць сваю вагу прыкладна на адным узроўні рэгулярныя інтымныя заняткі дапамагаюць. Па-першае, таму што эндарфіны, якія выдзяляюцца падчас кантакту, у некаторай ступені могуць прагнаць пачуццё голаду. І, па-другое, сама "працэдура" блізкасці здымае каля 200 калорый. Акрамя таго, пры актыўным сексуальным рэжыме ўмацоўваецца брушны прэс і мышачная маса жывата паціху "выцясняе" тлустую.

### 3.Палепшыць працэс страўлівання

У некаторай ступені гэта адбываецца дзякуючы пацалунку, падчас якога імунная сістэма "запускае" працэс утварэння антыцел, а страўнік "перахоплівае ініцыятыву" і пачынае асабліва актыўна і эфектыўна працаваць.

### 4.Папярэдзіць карыес

І зноў гэта заслуга пацалунку, які стымулюе ўтварэнне сліны. Кальцый і фосфар, якія ў ёй утрымліваюцца, вельмі карысна ўплываюць на зубную эмаль.

### 5.Палепшыць стан скуры

Пры асалодзе падчас інтымных кантактаў павышаецца сакрэцыя жаночых палавых гармонаў — эстрагенаў, дзякуючы якім паляпшаецца абмен рэчываў у скуры. У выніку скура набывае здаровы колер, робіцца больш гладкай і далікатнай за кошт павелічэння ўтрымання калагена ў яе тканках.

Акрамя таго, любыя сексуальныя гульні выклікаюць прыліў крыві да скуры, што спрыяе аблягчэнню такіх хвароб, як экзэма і псарыяз, вядома, разам з адмысловым лячэннем.



### 6.Умацаваць памяць

Прычым гэта магчыма ў любым узросце. Уся справа ў тым, як уладкаваныя нашы мазгі. Рэгулятар гарманальнай сістэмы, гепаталумус, кіруе разам з гэтым і цэнтрам памяці. І як следства, актывізацыя гармонаў "цягне" за сабою і актывізацыю цэнтра памяці.

### 7.Нармалізаваць менструальны цыкл

З кнігі Барбары Кіслінг "Гаючыя ўласцівасці секса": "Перадменструальны сіндром, спазмы, парушэнне цыклу, захворванне ў вобласці таза ўвогуле і перадменструальны сіндром у прыватнасці добра паддаюцца сексуальнаму вылечванню".

### 8.Нармалізаваць сон

Мала хто не ведае, што добры секс — гэта цудоўнае снатворнае. На мужчын яно дзейнічае, праўда, больш выразна, чым на жанчын, аднак і яны адчуваюць яго седатыўнае ўздзеянне.

### 9.Прыглушыць боль

Справа ў тым, што сексуальнае задавальненне падымае ўзровень цярпімасці балявых адчуванняў ажно на 70% у момант аргазму і ў любым выпадку не дазваляе чалавеку сканцэнтроўвацца на болі (калі яе крыніца, вядома, не ў палавой сферы).

### 10.Паменшыць рэакцыю на стрэс

Душэўны спакой абавязаны свайму з'яўленню ўсё тым жа эндарфінам, якія выдзяляюцца ў момант аргазму. На рэфлекторным узроўні прыемны секс здымае і фізіялагічнае напружанне...

ГОСТИНАЯ

*Сергей ЖУРАВЕЛЬ:*

# «Я разборчивый мужчина...»

*Единожды увидев, кто его забудет? Сергей Журавель сегодня один из самых популярных актеров Беларуси. Зритель идет в театр "на Журавля".*

*1 июня актер отметил свое 50-летие. Много это для мужчины или не очень? Стоит ли в 50 подводить какие-то промежуточные итоги? С этого вопроса и началось наше "юбилейное" интервью...*



— Этот возраст меня не гнетет, — Сергей говорит медленно, обдумывая каждое слово. — Когда мне исполнилось 30, то казалось, что все значительное, что может быть в жизни человека, уже позади, и я очень переживал, что многое не успел сделать. А сегодня нет ощущения, что надо сесть и проанализировать, что сделано, а что — нет. Да, собственно, и времени для этого нет, я все время в работе. И могу сказать, что это замечательно, когда ты востребован, когда кому-то нужен. Правда, стал больше уставать. Не хватает той энергии, что была в молодости. Зато есть мудрость, которой не хватало в 20 и даже в 30 лет.

**— Сергей, сегодня у Вас много ролей в театре, Вы часто снимаетесь в сериалах, на "Альфа Радио" руководите творческой группой. Так много работаете для удовлетворения своих творческих амбиций или для того, чтобы элементарно выживать в наших трудных условиях?**

— Если мне предлагают делать то, что мне не нравится, я сразу отказываюсь. Во всяком случае, в театре я играю те пьесы, которые мне приятно играть. В сериалах снимаюсь у тех режиссеров, которые мне симпатичны. Большое удовольствие мне приносит сам процесс съемки, то, как это делается.

Конечно, если бы не было возможности делать что-то еще кроме работы в театре, было бы трудно материально. На театральную зарплату очень сложно содержать и себя, и семью. Я всегда где-то подрабатывал. Снимался на телевидении, читал на радио. Когда появился FM-эфир, пошел работать туда.

Для мужчины имеет большое значение, сколько денег лежит в его кошелке. Если их постоянно не хватает, вырабатывается комплекс неполноценности. Но деньги надо зарабатывать, они не упадут с неба.

**— А может, просто стоит научиться соотносить свои потребности и возможности, ведь не зря говорят, счастлив тот, кому хватает?**

— Наверное... Я езжу на "Опель-Вектре" 1994 года. С точки зрения престижности, эта машина слишком далека от подобного класса автомобилей. Но меня это не смущает. Машина меня везет, и слава Богу. Я хожу в джинсах и свитере, и у меня нет комплекса, что на ком-то джинсы от Версаче.

Сейчас для меня гораздо важнее мой внутренний покой. Но и он также состоит из уверенности, что у меня есть работа, что я могу содержать семью, могу помогать сыну. Значит, надо работать, надо постоянно бежать вперед и не бояться. В детстве и юности человек не задумывается о том, что, упав, можно сломать шею. А потом начинает задумываться и останавливает себя. Чем старше становишься, тем больше себя останавливаешь. Для мужчины этот момент очень пагубен: ограничивать себя опасно. Если остановишься, тебя забудут, не увидят и т.д.

**— Сергей, Ваша семья — это кто?**

— Моя жена Ольга Калабан. Правда, мы не расписаны, но уже достаточно долго вместе. Мы познакомились еще в бытность моей работы на "Би Эй". Оля пришла устраиваться на работу и обратила на себя внимание как хороший профессионал. Мы стали общаться и... Сейчас она заканчивает заочно Университет культуры по специальности менеджмент.

У нас большая разница в возрасте. Но это не имеет никакого значения.

На мой взгляд, о любви можно говорить тогда, когда начинаешь ощущать человека не только на уровне флюидов. Оля мой хороший друг. Она очень умная, обаятельная, с нею очень уютно дома. У нас много общих точек соприкосновения. Я знаю, что очень скоро мы узаконим свои отношения. Наверное, сделали бы это уже давно, просто времени не хватает.

**— Это очень важно для Вас?**

— Мне совершенно все равно, есть в моем паспорте штамп или нет. Это не принципиально. Наверное, скорее это имеет значение для женщины. Ей надежнее и комфортнее, когда отношения закреплены юридически.

**— Сергей, в Вашей жизни было много женщин? Бытует мнение, что творческих людей очень стимулирует внимание противоположного пола...**

— Я разборчивый мужчина... Если мне нравилась женщина, то я, не знаю каким образом, добивался взаимности. Нас соединяли обстоятельства, общее дело или что-то еще.

Что касается жен, то до Оли их было две.

Первая ушла от меня сама. Мы учились с Татьяной в театральном институте, потом поженились. Но, наверное, не смогли выдержать испытания, посланные нам судьбой. Мы не были к ним готовы. У нас умерло двое детей. Даша в четыре месяца, Павлик в два. Мы очень хотели детей, так их ждали, и вдруг все оборвалось... Это была большая травма. Татьяна уходила к мужчине, которого я хорошо знал. Наверное, тогда так нужно было. В последнее время я все больше прихожу к мысли, что все в жизни предначертано...

Со второй женой все получилось само собой. Сегодня я поддерживаю хорошие отношения и с Татьяной, и со своей второй женой — бывшей актрисой Молодежного театра Лерой Лиходей. От второго брака у меня сын, и было бы просто неправильно, если бы я со своей стороны нарушил обязательства перед ним, перед его матерью. Сейчас он живет со мной, Лера со вторым мужем переехала в Москву.

**— Находите с сыном общий язык?**

— Женя занимается в Европейском гуманитарном университете, ему 18. Возраст сложный, всего хочется, но нужно суметь определить, что важнее, приоритетнее.

К сожалению, я не очень много времени уделял сыну тогда, когда это нужно было делать обязательно, когда еще можно было влиять на его становление. В хорошем смысле этого слова. Женя очень хороший парень, добрый, отзывчивый. Но есть вещи, которые, как мне кажется, ему мешают. Например, инфантильность, желание получить все, прилагая при этом минимум усилий. И это меня очень беспокоит.

**— Вы были другим в его возрасте?**

— Мне кажется, что да. Мое поколение было другое. Когда мне было 18 лет, шел 1972 год. Начало застоя. Тогда была четкая ориентировка: школа, институт, работа. Все было распланировано. Меня совершенно не волновала материальная часть жизни. Я знал, что, когда закончу институт, устроюсь на работу и буду получать зарплату. Меня устраивало то, что можно было спокойно заниматься какими-то нематериальными вещами: книжками, театром. Единственное, я не предполагал, что прорвусь в театральный институт. Я готовился к инъязу. Но так как в театральном институте экзамены были раньше, я попробовал. Все сдал и меня зачислили.

**— Почему Вы говорите прорвусь? Были не уверены в своих силах?**

— Я очень увлекался театром. В 8 классе поступил в драматический кружок при Дворце профсоюзов. Но в моем понимании прочно зафиксировалось, что артист — это хорошая фактура, высокий рост, красивая внешность. Я, к сожалению, этого ничего не имел. Может быть, был немного смазлив... Но поступил. И затянуло.

**— Никогда не пожалели об этом?**

— Я занимаюсь любимым делом, и мне кажется, у меня получается. Возможно, прав был Александр Иванович Бутаков, который меня, вчерашнего школьника, взял на этот курс... Со мной учились Алексей Дударев, Геннадий Шкуратов и Таня Лихачева — сейчас заслуженные артисты Беларуси.



*С сыном Женей и любимой женщиной Ольгой Калабан.*

**— Вы самокритичный человек?..**

-- Да, и мне это здорово мешает. Меня редко устраивает то, что я делаю. Хотя с годами приходит какой-то момент понимания и профессии, и себя в этой профессии.

В молодости я был подвержен самокритике. Каждый раз, когда выходил на сцену, волновался, понравлюсь ли зрителям, что скажут знакомые о моей работе. Это были какие-то юношеские желания производить на всех хорошее впечатление. А потом я пришел к выводу, что сомнение в себе — главный враг мужчины. И зачастую оно не оправдано. Думаю, с этим связан и так называемый кризис среднего возраста. Чем быстрее мужчина победит в себе сомнение, тем будет лучше. Ему будет комфортнее.

**— А как удается так молодо выглядеть?**

— Я всегда выглядел моложе своих лет. В 18 мне давали 16, в 40 — 35. Видимо, это гены. Мой папа всегда выглядел моложе своих лет. У них с мамой разница в возрасте 15 лет, но это никогда не было заметно, хотя моя мама тоже выглядела замечательно. Она следила за собой, за веяниями моды. Мама во время войны закончила Тимирязевскую академию, приехала в Минск по распределению, встретила здесь отца и навсегда осталась в Беларуси. Родители, слава Богу, живы. И это большое счастье.

**— В 50 лет чего бы пожелал себе актер Сергей Журавель?**

— Здоровья...

Порой человек думает: "Вернуть бы все назад, многое делал бы по-другому, не совершал бы столько ошибок". А я бы, наверное, ничего не менял в своей жизни, хотя в ней было очень много сложных моментов...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Крыжановский вернулся в Минск из-за жены

***Известный актер говорит, что не смог выносить разлуку с любимой женщиной***

Покорять Москву Евгений Крыжановский и актеры театра "Христофор" отправились в марте прошлого года. В Белокаменную белорусских артистов пригласила ведущая популярной программы "Аншлаг" **Регина Дубовицкая**.

Сейчас юмористы возвращаются в Минск. Свой приезд домой отметят премьерой — эстрадным спектаклем "Хоть стой, хоть падай".

Причин, по которым белорусам пришлось уехать, немало. Одна из них — разлука с домом.

"В Москве совершенно не был устроен наш быт, — рассказывает Крыжановский. — Мы, как студенты, жили в общежитии. В комнате 6 человек, туалет в коридоре. Ребята выли без жен и детей.

В моей минской квартире скучала без меня моя гражданская жена Анна. Она моложе меня на 22 года. Представляете, как тяжело мне было с ней расставаться! Переехать в Москву она не могла еще и потому, что в Минске у нее дело — частный магазин, который она долго создавала".

По словам актера, никто из московских продюсеров не изъявил желания работать с белорусами. Даже за маленькие гонорары. "Регина Дубовицкая нас предупреждала, что сначала надо раскрутиться, а потом переезжать, — говорит юморист. — А мы не послушались. Пока решили вернуться в Минск, но в "Аншлаге" будем сниматься. Скоро отправляемся с россиянами в круиз по Черному морю, где будут записываться некоторые выпуски передачи".

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ДИАЛОГ

# Спи, младенец мой прекрасный...

***Легко ли быть молодой мамой? Что такое воспитание маленьких детей — творчество или борьба? О партнерских отношениях матери и ребенка говорят студенты ЕГУ Никита АНДРЕЕВ и Антонина ЛОСЕВА.***

**Никита:** — *Тоня, легко ли совмещать учебу и семейную жизнь?*

**Тоня:** — Учиться и иметь семью не так сложно, как учиться и просто встречаться с человеком, которого любишь. Ведь будучи замужем ты видишь любимого человека каждый день. К тому же, когда ты состоишь в семье, это организует тебя. Может быть, у тебя остается меньше свободного времени, но зато ты точно знаешь, чему именно ты должен это время уделить.

**Никита:** — *Как вы решаете проблему финансового обеспечения вашего быта?*

**Тоня:** — Во-первых, нам очень помогают родители. Во-вторых, мой муж работает и зарабатывает деньги. Я же, свободно владея английским, занимаюсь переводами и тоже вношу свой вклад. Я могу сказать, что мы не испытываем финансовых трудностей. В этом году можем позволить себе отдых за свой счет.

**Никита:** — *Ваши родители наверняка давали вам советы по воспитанию ребенка. Какие из них действительно помогли тебе, а какие ты бы оценила как тривиальные?*

**Тоня:** — В воспитании ребенка я стараюсь не фиксировать свое внимание на каких-то конкретных советах. Все, чем я руководствуюсь, — это здравый смысл. К тому же сейчас много хорошей литературы по воспитанию детей. Но и здесь я не бросаюсь в крайности и принимаю лишь те рекомендации, которые не идут вразрез с моим видением.



Мне кажется, что ребенок не требует какого-то радикально иного отношения к себе, чем любой другой человек. Ребенок — это тоже личность, пусть пока и растущая. Дети понимают гораздо больше, чем нам кажется. Это значит, что с ними тоже можно о многом договориться. Поэтому партнерские отношения с ребенком кажутся мне очень эффективным вариантом.

**Никита:** — *Вопрос по поводу литературы о воспитании детей. Каких авторов ты могла бы посоветовать?*

**Тоня:** — Мне очень нравится книга "Ваш ребенок. От 0 до 2 лет", которую написали супруги Уильям и Марта Серз. Это чета американских врачей, которые обсуждают как бытовые вопросы воспитания, так и принципы формирования ребенка как полноценной личности, свободной от комплексов.

**Никита:** — *Часто здравый смысл родителей основывается на соображении о полном контроле. Но, как показывает практика, ничего хорошего из этого не выходит. Я говорю это к тому, что здравый смысл — вещь не инвариантная.*

**Тоня:** — Это может расти из комплексов самой матери, из ее желания хотя бы что-то контролировать. Но моя цель — вырастить человека самодостаточного, уверенного в себе. Ребенку следует предоставлять как можно больше свободы. Но ее все же необходимо ограничивать. Например, у нас дома мой сын может залазить туда, куда он хочет, и мы не одергиваем его. Просто перед тем как он только начал ползать, мы убрали из поля его досягаемости все предметы, которые могут причинить ему вред, и те, которым вред может причинить он. Таким образом, нам не приходится вырывать какие-то вещи у него из рук и жаловаться на то, что он что-то портит.

**Никита:** — *Насколько я понимаю, сейчас тебе даже никогда не приходится физически наказывать своего ребенка.*

**Тоня:** — Я не могу сказать, что ни разу в жизни не повысила голос на сына или ни разу не шлепнула его по попе. У меня возникает гнев, но я стараюсь его контролировать. Например, когда я злюсь на сына, я просто ухожу в другую комнату. И мы встречаемся снова через пять-десять минут, когда "буря утихает".

**Никита:** — *Какие советы ты могла бы дать молодым мамам?*

**Тоня:** — Я бы оспорила расхожее представление девушек, еще не имеющих детей, о том, что ребенок — это "конечный пункт" и после его рождения нужно будет заниматься только им. На мой взгляд, ребенок будет благодарен матери, которая чего-то добилась в жизни, а не просидела всю жизнь с ним. Я бы посоветовала молодым мамам не останавливаться в своем профессиональном развитии и стремиться к достижениям, чтобы потом не только они сами, но и их дети могли ими гордиться. Что касается воспитания, то я посоветовала бы быть внимательными и заинтересованными в понимании причин, почему ребенок ведет себя так, а не иначе. И, конечно же, как можно больше говорить с ребенком и проводить как можно больше времени в совместных занятиях.

Народная Воля

4 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Еўфрасіння ўсяе Беларусі

*Роўна 10 год таму пад такім назовам была запачаткавана традыцыя ўшанавання добраслаўнага імя і духоўнага подзвігу незвычайнай жанчыны-палачанкі, якую можна назваць гістарычным феноменам не толькі Беларусі, а і ўсёй хрысціянскай цывілізацыі.*

*Свята ў гонар найвялікшай дачкі нашай зямлі — апякункі Беларусі, вялікай асветніцы, найпадобнай полацкай ігуменні, якое ўзнікла з ініцыятывы грамадскага аб'яднання "Міжнародны жаночы фонд Святой Еўфрасінні Полацкай", адзначаецца 5 чэрвеня. Сваімі годнымі справамі, сваім жыццём, якое было ўзорам найвышэйшай духоўнасці, далучаная да ліку святых Еўфрасіння Полацкая заслужыла вялікі гонар, каб яе імя гучала не толькі ў храмах, а і ў кожнай беларускай сям'і, кожным сэрцы.*

*Доўгі шлях творчых пошукаў прайшла да мастацкага ўвасаблення вобразу найвялікшай жанчыны нашай Бацькаўшчыны пісьменніца Валянціна Коўтун — старшыня Міжнароднага жаночага фонду Еўфрасінні Полацкай, пакуль не адчула ўсёй істотай: яе паклікалі. У яе душы загучаў голас з глыбіні стагоддзяў. Найперш — самой Еўфрасінні... І пісьменніца ўзялася за пяро, чуйна ўзіраючыся ў тое, што адкрывалася яе ўнутранаму зроку.*

*Так пачынаўся раман "ПАКЛІКАНЫЯ", фрагменты якога ў свой час друкаваліся ў часопісе "Полымя". Сёння ўрывак з новага рамана пісьменніцы прапануецца ўвазе чытачоў "Народнай волі".*

***Валянціна КОЎТУН***

# Ішоў тысяча сто дваццаць шосты год ад нараджэння Божага...

*(Урывак з рамана «Паклiканыя»)*

***

Спуджана фыркаючы, конь лёгка адольваў добра бачную ў якрім месячным святле дарогу. Трымаючы ў руках лейцы, Еўлампія раз-пораз азіралася на Еўфрасінню, аднак тая маўчала.

Дарога была ўхабістая, павозку тузала ва ўсе бакі, і ігумення, ледзь змагаючы боль ад валасяніцы, нават не заўважала, як ад пругкага ветрыку ўзбоч шляху таямніча гойдаюцца, адбіваючы густой лістотаю бляск зорак, высокія алешыны. Кланяюцца тонкімі галінамі адзінокай павозцы з манашкамі. Абсыпанае буйнымі зоркамі нізкае неба летняга месяца зарэня было чыстым: ні воблачка, ні хмурага ценю. Нечакана данёсся вар'яцкі крык Веранії. І хоць гэта, пэўна, зноў прычулася, у сэрца Еўфрасінніна нечакана ўпала атрутная кропля. Конь тым часам мераў дарогу да Сяльца ўсё весялей, ноч была мяккая і ціхая. Але зноў — той Вераніін смех...

"Ойча літасцівы, міласэрны, уратуй нас усіх. Суцяшыцель наш, пачуй і літасць Сваю нам даруй... Бо прагну даўно, каб рыбакі Твае закідвалі сеці ў мае вочы, якія стварыў такімі глыбокімі і гожымі, як Іярданскія прадонні, ахінутыя густымі чаротамі павекаў. І няхай прыносяць, Божа, тыя сеці да ног Тваіх адно залацістых рыбін любові і шаўковыя водарасці вечнай пакуты аб Табе... І няхай плакальшчыцы Твае, Госпадзі, збіраюць слёзы мае і пакуты ў бяздонныя чаны мудрасці Тваёй. Бо даўно прашу: злітуйся і пагавары, Ойча, з адчаем і болем маім хоць раз на мове мудрай спагады Сваёй... Увядзі мяне ў кузню Сваю, Ойча, і сэрца распалі агнём, каб зліць з пакутаў нявольніцы Твае срэбныя званочкі для кашары Пастуха!

Куды ні кінецца якая аблудная авечка — зазвініць званочак, папярэдзіўшы: "Схамяніся і вярніся да Айца!.."

"І злівай у жывот мой, Ойча, семя з дрэваў Ліданскіх, і соты згарчэлага шалу людскога, і ачысці іх, і апладні Запаветаў Сваіх гронамі, каб раіліся і нараджаліся ўва мне новыя жывыя душы, што будуць шукаць сябе ў чалавецах на зямлі Полацкай... Злітуйся і ўратуй мяне, Ойча, зрабіўшы нарадзіўцаю душаў у нябеснай каморы Тваёй... Злітуйся, Міласэрны, і дазволь адчыніць дзверы новае кашары Твае ў Сяльцы ключамі, што на вякі вечныя плоць зямную маю замкнуць, аддаўшы яе толькі небу!.."

Слёзы каціліся па шчоках. Налятаў свежы, пругкі вецер.

І раптам павозка так рэзка спынілася, што Евангелле ледзь не выпала з рук. Не пытаючы ні аб чым Еўлампію, устрывожана прыслухалася: здаецца, з боку Сяльца выразна чулася тонкае воўчае падвыванне. Еўлампія азірнулася:

— Няўжо раннюю восень чуюць, маці ігуменне? Але ж яшчэ жніво толькі кончылася. Звер яшчэ не галодны. Ці, можа, зайгралі так рана?..

Неба нечакана зацягнула пёрыстая чародка бляклых лятучых воблакаў, што на нейкі момант патушылі і жоўтую свечку поўні.

— Рухай! Ноч канчаецца. Не паспеем...

Еўлампія рашуча тузанула за лейцы, аднак конь нібыта аслупянеў. Не дапамог і бізун. Тады, паціху апусціўшы ногі, Еўфрасіння скочыла на зямлю. Калючая валасяніца ўжо даўно нацерла паўсюль ранкі. Трымаючы ў руках Евангелле, асцярожна пайшла па дарозе наперад, і конь зрушыўся з месца. У той жа момант зноў пачулася доўгае, дзікае і жаласлівае, воўчае падвыванне. Конь захроп. Але яна не спынялася.

"Ойча, пачуй нявольніцу Тваю..."

Вар'яцкі смех Веранії, вылецеўшы з бліжэйшай цёмнай сцяны кустоў, цяпер здаўся страшнейшы нават за ваўчынае выццё. Зашаптала:

"У берагавыя жылы мае і гарачыя струмені крыві, Ойча, што брыняць праз цела спакутаванае, пералі людскія сны вар'яцкія, пажаданыя, каб патапляліся на дне. Пералі поты мае ў строму тае ракі, дзе захлынацца будуць тысячаротыя, старукія пачвары бруду і хлусні! Пералі ўздыханні мае ў залаты дождж Свой, Ойча, і згарні бяссонныя ночы ў прорву вечнага часу, каб сонцам ранішнім высушыць, нібы расу, вогненныя кроплі людскіх спакусаў..."

Ішла, адчуваючы, як з усіх бакоў пачынае блізіцца і біць у сэрца злая смяротная пагроза.

"Ойча, скажы ловам Сваім, каб паставілі пасткі для пажадлівых рук маіх, бо прагну ведаць толькі пяшчоту міласэрнасці Твае, і зрабі сіло для вуснаў-птушанят, каб адно зерне каласістых снапоў Тваіх спажываць маглі... Сыпні ж зерне мудрасці рукою шчодрай. Ратуй, ратуй, Ойча...

І аратыя Твае няхай засеюць два белыя пагоркі грудзей дзявочых краскамі і ружоваю канюшынаю на спажыву пчолам нябесным, каб услодычылі соты Айца!.."

Ішла не азіраючыся: асветленая яркімі зоркамі дарога бялела камякамі, што пад яе нагамі рассыпаліся ў пясок.

"Каб выкасілі, скажы, касцы траву паміж тых белых слупоў, што ўрастаюць у нутро маё вечным плодам жыцця і смерці, каб было чым Айцу карміць асліцаў у дарозе вечнай..."

На скроні павеяў свежы вецер: набліжалася раніца.

І раптам Еўфрасіння рэзка спынілася, адчуўшы, што пагроза, дзікая і смяротна небяспечная, ужо зусім блізка. Конская храпа мякка ткнулася ў спіну. Слых нечакана ўлавіў ціхенькі, пажадны і такі недарэчны смех Веранії, якая нібыта здзекавалася з яе болю.

"Чаму не хочуць зразумець людзі, што не так валасяніца балючая, хоць абгрызае да крыві грудзі і плечы, але найстрашней тая, сплеценая з салодкіх цянётаў пажада, што ўліваецца ў цела з першароднай крывёю і выплюхваецца з нутра млосцю? Чаму не ў змозе зразумець людзі, што, парваўшы зямныя шнуры, ляціць душа і да тае спакусы, што пануе ў паднебных прасторах, дзе перапляталюцца рукамі і звіваюцца целамі нашы прымары. Ці бачыў Ты іх, Ойча, ці не ўскіпала ад болю сэрца Тваё? Бо найстрашнейшы гэта грэх — слодыч мройных плоццезлучэнняў!"

Стаяла перад начной цемраю, у якой знікала вузенькая дарога, сціснутая хмызнякамі: "Ойча, зрабі з рук маіх спакушаных жэрдкі для мосту ад гэтай зямлі, на якой стаю, да воблака, на якім прастол Твой, каб ляцелі па мосце да святых ног, бы коні акрыленыя, толькі ўздыхі нашы і пакаянні. Ратуй мяне, ратуй, Міласэрны... І дай выпрабаванне. Як выпрабоўваў некалі палестынскіх пакутнікаў Сваіх — постам, бяссоннем і працаю. І ўзнагародзь моцаю егіпецкіх пустэльнікаў і затворнікаў афонскіх Тваіх, каб змагаць мяцяжы душы і пустаслоўе, і аблудлівасць праз доўгія леты. Ратуй, Ойча!".

Глыбока ўздыхнула, але тая дзікая звярыная сіла, якая спачатку пагражала ёй з усіх бакоў, цяпер так моцна біла ў спіну, што, як толькі магла хутка, павярнулася і, наказаўшы амаль бясцямнай ад жаху Еўлампіі не выпускаць з рук лейцаў, заспяшалася назад за павозку. Павярнулася тварам да цемры, якую ўжо даўно праехалі. Ноч і сапраўды быццам ажыла і імгненна азвалася грозным воўчым выццём. Зялёныя агеньчыкі, працінаючы цемру, блізіліся да яе так імкліва, што не магала нават варухнуцца. Царкоўную павозку даганяла ўжо цэлая зграя: Еўфрасіння міжволі азірнулася і нават адступіла. Спуджана заіржаўшы і ўжо не слухаючы лейцаў, конь таксама не вытрымаў. Пачула рэзкае рыпенне колаў і крык перапалоханай да смерці Еўлампіі, якая, відно, ужо не магла нават саскочыць на зямлю і прыйсці на дапамогу. А смерць ужо імчалася да Еўфрасінні, працінаючы трывожную ноч зялёнымі агеньчыкаім: "Ойча, Сэрцазнаўца, няўжо час настае мой?.. тады прымі... душу..." Падняла вочы — зоркі кружыліся над галавою шырокім зіхатлівым колам: "Прабач, Ойча, мяне, грахаводную, няўдзячную, нецярплівую, аблудную, грубую, нелітасцівую, неразумную, леную, нячыстую... І даруй, дазволіўшы да Цябе хоць бы думкамі наблізіцца..."

Шырокія языкі пачвараў, якія імчаліся да яе па начной дарозе, матляліся, пырскаючы ў бакі пенаю густой сліны. Белыя клыкі блішчалі і здаваліся ў месячным святле пагрозліва вялізнымі. Усё яшчэ трымаючы ў руках Евангелле, Еўфрасіння падняла яго ўгору і, амаль бясцямная, рушыла наперад. Здаецца, нават пачула смуроднае дыханне распаленага гонам вялізнага звера. Але ў тое ж імгненне наперарэз ваўчыцы, што вяла за сабою ўсю зграю, ці не з глыбіні самых густых карчоў раптам вылецела жанчына, шырока размахваючы рукамі, і, пусціўшы на ветры распатланыя чорныя валасы, дзіка закрычала... І ў той жа момант ваўчыца, мінаючы Еўфрасінню, клацнуўшы зубамі, з лёту скочыла на ваяўнічую вар'ятку і адразу ж сціснула вострымі клыкамі яе горла. Услед за мацёрай звярынай на ахвяру кінуліся яшчэ тры ваўкі.

Тады нарэшце пазнала Веранію.

У роспачы ўпаўшы на калені, азірнулася: па дарозе імчаў, высока падняўшы паходню, вершнік. Полымя высвеціла яго чырвоны кафтан і глыбока насунуты на бровы стаўбун.

А ваўчыца, павёўшы да Еўфрасінні скрываўленай пашчай, шумна ўцягнула ў сябе паветра. Стоячы блізу яе, вялізныя маладыя ваўкі бліскалі зялёнымі злоснымі вачмі. Аднак вершнік, падлятаючы, так шырока махнуў перад сабою паходняй, так пагрозліва закрычаў, што, ашчэрыўшы іклы, ваўчыца пругка адскочыла ў густы хмызняк. Услед за ёю ў цемры тут жа знікла і ўся зграя.

На дарозе з чорнай ранаю ў горле і пагрызенымі грудзьмі засталася ляжаць Веранія. Тады, укленчыўшы каля нябожчыцы, Еўфрасіння пачала гарачкава шаптаць малітву і ўжо не чула, як пад'ехала павозка, з якой ледзь не вылецела старая Еўлампія. Вершнік у чырвоным кафтане ўздыхнуў:

— Дзякаваць Богу, сустрэў чалядніцу вашу, уладычыца. — Зразумеўшы, што ігуменне дасюль не ачуняла і ўсё яшчэ не можа пазнаць яго, схіліў галаву:

— Кмет Сава я, уладычыца.

Азвалася глуха:

— Ведаю.

— Гаротная, — Сава кіўнуў на Веранію, якая цяпер па-дзіцячы лагодна ўсміхалася небу. Еўлампія ўжо акрывала нябожчыцу новай, вытканай да свята Божага Прэабражэння, посцілкай. Сава зноў наблізіўся:

— З дазволу твайго, уладычыца, пахаваем на могілках каля старога поруба.

— Прывязі яе лепш у Сяльцо. Няхай паміж дамавінамі святароў будзе, пакутніца...

— Прывязу...

Зноў нахілілася, пацалаваўшы нябожчыцу ў высокі чысты лоб.

У твар нечакана дыхнула навальнічная задуха. Неба было чорнае, як дзёгаць. І хоць не ўпала яшчэ ні кроплі дажджу, над галавою прагрымелі ўдары грому, а ўвесь нябесны паддон раскроіла раздвоеная, бы змяіны язык, маланка... Блізілася жнівеньская навальніца.

...Праз колькі часу, адгарнуўшы новую абалонку свайго летапісу, ігуменне Еўфрасіння запісала, што быў закладзены Спаса-Прэабражэнскі манастыр у Сяльцы ноччу, з прывезенымі ёю Евангеллем і трыма даравальнымі хлябамі ў імя Айца і Сына і Святога Духа — на дзевятнаццаты дзень месяца зарэня ў лета ад нараджэння Божага адна тысяча сто дваццаць шостае.

Памяць на імгненне вярнула гнуткія вербалозы ўздоўж дарогі і зялёныя агеньчыкі пасланцоў апраметнай, што тою ноччу старажавалі і праводзілі іх павозку да самага Сяльца. Згадала і рэзкія ўдары грому пасярод сухой чорнай ночы, і адзінокую постаць вершніка з паходняй, і епіскапа, які, прыехаўшы ў Сяльцо той жа шарай раніцаю, здзівіўся, убачыўшы, што ён тут не першы госць...

ЛЮБОПЫТНО

## На флотской базе ищут привидений

*На флотские склады в городе Плимуте, на юго-западе Англии, приехала команда охотников за привидениями. Парапсихологи провели в доках военной базы Девенпорт пару ночей и пришли к выводу, что дело нечисто.*

Охотники за привидениями приехали по приглашению местного начальства, которому неоднократно жаловались на появление весьма странных существ. "Народ тут ходит и сообщает мне, что призраки просто бесчинствуют", — пожаловался корреспондентам командир базы Чарльз Кричтон.

В "Доме главного троссовщика" — так называется одно из зданий — видели призраков играющей девочки и бородатого матроса. Парапсихологов поселили в "Келье повешенных" — еще одном здании, где, по преданию, много лет назад казнили 141 француза-пленника.

## Танец живота от скуки

*Заточка карандашей на скорость или, например, поиск самого некрасивого ученика — такими невинными развлечениями занимаются учителя во время экзаменов, чтобы не заснуть и не сомлеть от скуки.*

Их сообщения, только опубликованные на британском учительском чат-сайте TES, свидетельствуют: арсенал преподавателей в этом смысле достаточно богат. Например, они играют в "цыплят". Это когда два человека на большой скорости сходятся на узком мостике (в данном случае в проходе между партами), и тот, кто первый повернет, проиграл. Разумеется, в условиях экзаменов "цыплята" играют в сильно замедленном темпе.

Один интеллектуал говорит, что убивал время, переводя правила сдачи экзамена на иностранные языки. Другой попросту считал кирпичи в стене напротив. Один учитель вспоминает, что развлекался, в точности повторяя все движения своего коллеги, сидевшего в другом конце аудитории. Другой — что его знакомая учительница потихоньку практиковала во время экзамена танец живота.

## Буш-старший предложил Горбачеву прыгнуть с парашютом

*Свое 80-летие Джордж Буш-старший решил отметить очень неординарно. Он решил доказать себе и всем остальным, что в столь преклонном возрасте остается крепким физически.*

Как сообщает РИА "Новости", экс-глава Белого дома решил в свой день рождения прыгнуть с парашютом. Это событие произойдет в июне в штате Техас. Сегодня же стало известно, что Буш-старший предложил Михаилу Горбачеву составить ему компанию.

Столь заманчивое предложение, как стало известно агентству, экс-президент СССР отклонил, ответив, что на юбилейные торжества прибудет в качестве почетного гостя вместе с бывшим премьер-министром Великобритании Джоном Мейджором, экс-президентом Мексики Карлосом Салинасом и бывшим премьер-министром Канады Брайаном Малруни.

Прыжок с парашютом — это уже традиция. Прошлый раз Буш-старший совершил подобный трюк в день своего 75-летия.

## В США придумали йогу для собаководов

В США выпущено подробное руководство по так называемой "собачьей йоге". Как передает телекомпания НТВ, это совместные занятия, которые стремительно охватывают широкие массы американцев. Они говорят, что собачья йога — или дога — улучшает самочувствие и нормализует давление.

Сторонники таких совместных медитаций утверждают, что через собак, более близких к природе, человек быстрее достигает естественной гармонии и заряжается первобытной энергией.

Впрочем, противники доги считают, что совместные занятия могут привести к возрастанию зависимости хозяина от собаки и как следствие — ко все большей изоляции человека от внешнего мира.

## У Брэсце пачаўся суд па справе аб незаконным выкарыстанні высокіх тэхналогій

3 чэрвеня суд Ленінскага раёна Брэста прыступіў да разгляду крымінальнай справы 42-гадовага жыхара абласнога цэнтра, які, працуючы на пасадзе галоўнага інжынера адной з правайдэрскіх фірмаў Брэста, выкарыстаў доступ да камп'ютэрнай сістэмы ў карыслівых мэтах.

Як паведаміла БелаПАН суддзя Ларыса Назарэнка — менавіта пад яе старшынствам будзе слухацца гэтая справа — са жніўня 2002 года па верасень 2003 інжынер арганізаваў за кошт фірмы індывідуальным карыстальнікам і арганізацыям парольны доступ у Інтэрнэт, зрабіўшы змены ў білінгавай сістэме прадпрыемства. Паслугі былі ўтрая таннейшымі, прычым без абмежавання часу карыстання Інтэрнетам. Кліентаў у нелегальнага правайдэра хапала: у судзе будуць дапытаны 54 чалавекі, якія аплачвалі паслугі гатоўкай. Афёра, якая прынесла прадпрымальнаму камп'ютэршчыку даход амаль 60 мільёнаў рублёў, выявілася, калі ён пайшоў у адпачынак. Падчас яго адсутнасці ў фірму сталі прыходзіць людзі, што хацелі скарыстацца таннымі паслугамі.

Пасля завядзення крымінальнай справы многія з карыстальнікаў вымушаны былі аплаціць паслугі Інтэрнета ў поўным аб'ёме ў адпаведнасці з расцэнкамі фірмы-правайдэра.

Паводле слоў Ларысы Назарэнка, гэта першая такая буйная справа па незаконным выкарыстанні высокіх тэхналогій, і слуханне яе зойме, як мяркуецца, месяц.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**



## Наркотыкі ў ... шакаладзе

Як паведаміў БелаПАН начальнік мытні "Заходні Буг" Вячаслаў Осінцаў, у дарожнай сумцы і партатыўным халадзільніку ў рэйсавым аўтобусе, які накіроўваўся з Германіі ў Расію, мытнікі знайшлі 3 кілаграмы 310 грамаў марыхуаны і 1 кілаграм 37 грамаў гашышу. Як звычайна бывае ў такіх выпадках, рэчы і знойдзеныя ў іх наркотыкі аказаліся безгаспадарнымі. Пры больш дакладным аглядзе аўтобуса было знойдзена яшчэ 1 кілаграм 467 грамаў гашышу і 96 ружовых таблетак (як мяркуецца, "экстазі"), схаваных ва ўпакоўку для жавальнай гумкі. Наркотыкі ж былі замаскіраваны пад шакалад і пасыпаны перцам, каб іх не ўчуў службовы сабака.

Кошт затрыманага па цэнах "чорнага рынку" складае амаль 60 тысяч долараў ЗША.

Па падазрэнні ў дачыненні да перавозкі наркотыкаў затрыманы два вадзіцелі аўтобуса і адзін пасажыр. Начальнік мытні не стаў называць іх грамадзянства і ўзрост, спасылаючыся на тайну следства.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Бандыт у міліцэйскай форме

У гарадскі аддзел міліцыі № 3 Фрунзенскага РУУС звярнуўся мясцовы жыхар і паведаміў, што стаў ахвярай разбойнага нападу. Удзень, а 4-й гадзіне, у яго кватэру, што размешчана ў доме па вуліцы Берута, патэлефанаваў чалавек у форме супрацоўніка міліцыі. Як толькі гаспадар адчыніў дзверы, на яго накінуліся трое невядомых. Пагражаючы пісталетам, бандыты звязалі ахвяру і сталі патрабаваць грошы і каштоўнасці. Прыкладна праз пятнаццаць хвілін, атрымаўшы жадаемае, зламыснікі пакінулі кватэру.

Паводле даных аператыўнай зводкі, злачынцы забралі з сабой 60 тысяч рублёў, 337 долараў ЗША, 175 еўра, тэлефонны апарат і фотаапарат.

Здолеўшы выслабаніцца, пацярпелы адразу патэлефанаваў у міліцыю. Падчас праведзенага комплексу аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і спецпадраздзялення "Алмаз", падазроныя (іх аказалася чацвёра) былі затрыманы. Усе раней судзімыя, у тым ліку за крадзяжы, разбой і рабаванні. Па месцы жыхарства аднаго з іх аператыўнікі знайшлі форму супрацоўніка міліцыі, а ў кватэры другога — рэвальвер невядомага ўзору з 8 патронамі. Адметна, што "вартавым парадку" аказаўся раней судзімы (пяць разоў).

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**4**

чэрвень

**ПЯТНІЦА**
Усх. 4.42 Зах. 21.35
Даўж. дня 16.53
Поўня 3 чэрвеня

Сёлета спаўняецца **235 гадоў** з часу заснавання Гродзенскага оперна-балетнага тэатра Тызенгаўза (1769—1780)

СУД!

## В пьяном угаре...

Хорошие отношения между двумя соседскими семьями домовладения по улице Мичурина в Речице испортились, когда одна сторона возвела на меже земельного участка забор. Посчитав, что права второго собственника нарушены, обидевшийся частник объявил соседям войну. Словесных аргументов для достижения мира оказалось недостаточно, и Александр Гадлевский решился на более радикальные меры. Поздним вечером, опрокинув не одну чарку и прихватив на всякий случай самодельный нож, отправился к соседям. Дверь оказалась открытой. Первым, кого увидел незваный гость, был соседский сын, спавший на кровати в спальне. Без слов изрядно выпивший Александр принялся наносить спящему удары ножом в область груди. На крики безвинной жертвы прибежала его мать. Переключившись на женщину, разъяренный защитник частной собственности нанес и ей пять ударов в грудь. Оба пострадавших скончались на месте происшествия до приезда "скорой помощи". Вскоре прибывшие сотрудники милиции задержали убийцу, который впоследствии попытался всю вину свалить на помутнение рассудка и провалы в памяти.

Проведенная по уголовному делу судебно-психиатрическая экспертиза дала заключение — обвиняемый в убийстве двух человек "... психическим заболеванием не страдал и в настоящее время не страдает. В момент содеянного сознавал фактический характер и общественную опасность совершенных действий и руководил ими...". Говоря простыми словами — сознательно совершил убийство двух человек.

Приговор Гомельского областного суда оказался достаточно строгим — двадцать пять лет изоляции от общества в исправительной колонии усиленного режима фактически означают для 53-летнего бывшего слесаря завода "Термопласт" пожизненное заключение. Осужденный обязан возместить родственникам погибших 20 миллионов рублей причиненного морального вреда. Выплатит ли он до конца жизни назначенную сумму — вопрос риторический.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

## Пятница, 4 июня

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!"
**07.30, 08.30, 19.55** "Деловая жизнь".
**08.50** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс базовой школы в общеобразовательных заведениях.
**09.15 "Сага о Форсайтах".** Сериал.
**10.05, 20.00 "Сезон охоты".** Сериал.
**11.05 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Граница, которой нет". Видеофильм АТН.
**12.25 "Воскресение".** Худ.фильм.
**14.15** "Все нормально, мама!".
**15.10 "Десятое королевство".** Сериал.
**16.05** "5х5".
**16.45** "Витебск — родина Шагала". Видеофильм АТН.
**17.10** "Звездный дождь".
**18.05** "100 шагов к Олимпу".
**18.10 "Обочина".** Киноповесть.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Специальный репортаж". "Социализм. Шведская модель".
**22.00** "В стиле симфо-рока". Новая концертная программа Президентского оркестра Республики Беларусь.
**23.05 "Лорел каньон".** Мелодрама.

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 00.00** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Дом". Реалити-шоу.
**10.40, 21.05** Фабрика звезд-4.
**11.05** "Принцесса Сиси". Мультсериал.
**15.05** "Город женщин".
**16.05 "Берег мечты".** Сериал.
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Сканер".
**18.25** "Без срока давности". "Поездка ценою в жизнь".
**19.50** "Поле чудес".
**20.00** Время.
**22.30 "Что? Где? Когда?".** Финал летних игр.
**00.10 "Я люблю тебя до смерти".** Комедия.

### РОССИЯ

**18.20** "Честный детектив".
**18.50** "Вести. Дежурная часть".
**19.00** "Вести".
**19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**19.55 "Гражданин начальник".** Сериал.
**21.00** Юбилейный концерт Юрия Энтина.
**22.35 "Нашествие крыс".** Триллер.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.30** "Другие танцы".
**08.35, 22.05 "Никколо Паганини".** Сериал.
**09.20** "Ералаш".
**09.35** "Свет далекой звезды".
**10.05, 17.55** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.25, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.15, 12.55** "Обычный необычный день".
**11.50 "Плач перепелки".** Сериал.
**13.25** "Степа-моряк", "Орлиное перо". Мультфильмы.
**14.10** "Время кино".
**15.05** "Учительская".
**15.15** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.30 "Двенадцатая ночь, или Что угодно".** Музыкальный фильм-балет.
**16.50 "Артистка из Грибова".** Комедия.
**18.15** "Москва—Минск".
**18.30 "Ресторан господина Септима".** Комедия.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Фактор страха II".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол. Расследование".
**18.35** "Свобода слова". Ток-шоу.
**19.55 "И целого мира мало".** Приключения.
**22.45** Бокс. Лучшие бои. Костя Цзю — Хуго Пинеда.

### СТВ+RenTV

**06.25, 18.00** Минщина. Люди, события, факты".
**06.40** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.10** "Минск и минчане".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.30, 20.35** "Автопанорама".
**08.50** "Театральные истории".
**09.10** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.35 "Отряд спасения".** Боевик.
**11.15** "Черный ящик". Док.фильм.
**11.45** "Скетч-шоу".
**12.15** "Час суда".
**13.00** "Дикая планета". "Дикие звезды. Медведи". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Нина".** Сериал.
**14.55 "Мятежный дух".** Сериал.
**15.45** "Веселые баксы".
**16.15** "Тема дня".
**16.50** "Турпоход".
**17.00** "Классика юмора".
**18.15** "Светская хроника".
**20.20** "Добрый вечер, малыш...".
**20.55 "Танец ангела".** Комедия.
**23.20** "Реактивный бокс".
**23.45** "Новости СНГ".
**00.00 "Арахния".** Триллер.

### 8-Й КАНАЛ

**07.00, 17.00 "Моссад".** Сериал.
**07.50, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.00 "Стюарт Литтл".** Худ.фильм.
**09.30** "Знакомьтесь, Беларусь!"
**09.45, 19.50 "Любовники пустыни".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Джеймс Бонд — агент 007".** Приключенческий боевик.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Свой среди чужих, чужой среди своих".** Драма.
**19.45** "К-видео" — "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".

### ТВ ЦЕНТР

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** Газетный дождь.
**07.45 "Франк Рива. Вендетта".** Детектив.
**09.40** Европейские ворота России.
**09.50** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05** "Под грифом "Секретно".
**11.45** "Денежный вопрос".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**15.30** "Каля-маля".
**16.00 "Расследование Элоизы Ром".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Коррупция".** Детектив.
**20.40** "Советский Тильзит". Спецрепортаж из цикла "Малые города России".
**21.40** "Народ хочет знать". Ток-шоу.
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Дневник фестиваля "Кинотавр".
**23.55 "Губная помада".** Драма.
**01.25** "Мода non-stop".

### EUROSPORT

**09.30, 23.15** Ралли-рейд. Кубок мира в Марокко.
**09.45, 23.30** Ралли. Чемпионат мира в Греции.
**10.15** Олимпийские игры. "Цель — Афины".
**10.45** Супергонки по выходным. Тележурнал.
**11.45** Футбол. "ЕВРО-2004".
**12.45** Олимпийские игры. Эстафета олимпийского огня.
**13.00, 13.30, 01.45** Футбол. Планета ЕВРО.
**14.00, 22.00** Теннис. Открытый чемпионат Франции.
**20.00, 00.45** Футбол. Молодежный фестиваль во Франции.
**21.45** Футбол. Г-о-о-ол!
**00.00** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**00.30, 02.15** Новости "Евроспорта".

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 550 экз. Заказ № 661.